# ДЗЯННІЦА

**Вестка Беларускаго Нацыянальнаго Камісарыяту.**

*Асобны №. каштуя усюды 35 кап.*

У Расеі
За граніцу

№ 8

ВАРУНКІ ПЕРЭДПЛАТЫ:

| | На 12 мес. | На 9 мес. | На 6 мес. | На 4 мес. | На 3 мес. | На 2 мес. | На 1 мес. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| У Расеі | 15р.—к. | 11р.50к. | 8р.—к. | 5р.20к. | 3р.90к. | 2р.60к | 1р.30к. |
| За граніцу | 20р.—к. | 18р.—к. | 12р.—к. | 8р.70к. | 6р.—к. | 4р.—к. | 3р.—к. |

Калі выпісваяцца разам некулькі №№, та робіцца уступка па 20%.

Перамена адрысу каштуя 50 кап.
Радакцыя і Адміністрацыя: Масква, Паварская, 52.

Масква, 1918 г. 16 Апрэля. Выходзіць ня меньш чатырох разоу у месяц. І-й год выданьня.


**Канцылярыя Беларускаго Нацыянальнаго Камісарыяту адчыняна штодня, апроч сьвят, ад 11 г. да 4 гадзіны дню.**

---

**У Вітабску заложана філія Беларускаго Нацыянальнаго Камісарыяту. Камісарам назначан т. А. Мартіноускі. Адрыс: дом Акцызнаго губэрскаго упрауленьня.**

---

Атдзел Беларускаго Нацыянальнаго Камісарыяту у Пецярбурху знайходзіцца на Баскавум перавулку, дом. 22, кв. 16, куды і радзімо звяртацца за усімі справамі па Беларусі у звязку з Пецярбурхам.

Б. Н. К.

---



**Культурно-Просвѣтительный Отдѣлъ Бѣлорусскаго Національнаго Комиссаріата,** послѣ эвакуаціи изъ Петрограда, возобновилъ свои занятія въ Москвѣ. Отдѣлъ обращается съ просьбой ко всѣмъ учрежденіямъ и лицамъ, располагающимъ матеріалами и свѣдѣніями, касающимися исторіи и ныняшняго положенія культурной и цросвѣтительной жизни Бѣлоруссіи, присылать таковыя въ Бѣлорусскій Національный Комиссаріатъ, куда надлежитъ обращаться и за всѣми справками по дѣламъ народнаго просвѣщенія въ краѣ.

**Культурно-Просвѣтительный Отдѣлъ**
**Бѣл. Нац. Комиссаріата.**

---

**У Пецярбурзі „Дзянніца" прадаецца вось у якіх мейсцох: Атдзел Беларускаго Нацыянальнаго Камісарыяту (Баскау, 22, кв. 16), Нарауская арганізацыя Беларускай Сацыяль-Дамакрацкае Работнічае Партыі (Пецяргоуская шаша, д. 80, кв. 71), „Украинскій Базар", (Пец. Бок, Вялікі прашпект, д. 3), Неускі, у газэтчыка пры касцiолу св. Катарыны і Васіліоу Вострау, рог Вял. праш. і 10 ліні.**

---

## Выдавецкі атдзел Беларускаго Нацыянальнаго Камісарыяту.

**задауся мэтаю выдаць збор творау беларускіх пісароу і песьняроу, якія вышлі з народу, з сям'і селян і работнікау, каторы будзя звацца „Зажынкі". За гэтым іон звертаяцца да таварышоу беларускіх пісьменнікау с прапановаю прысылаць свае творы па адрысу: Масква, Паварская, 52.**

---

## Масква, 16 Апрэля.

Пашля таго, як украінская буржуйная рада прыляпілася да Гэрмані, і нямецкія вайскі пачалі разпараджацца на Украіня, як у заваёвануй старане, ушчалася барацьба між тутэйшых селян і нямецка-гайдамацкіх бандау. Цантровая рада была у вялікім смутку, ня ведала, як ей быць. У засяданьні, нарачыта зроблянум аб пытаньні, як згладзіць гострасць палажэньня, канаводы рады, як мага, крычалі, што трэба зрабіць усіо, каб толькі трымацца за Гэрманю, бо інакшай—казалі яны—згіня і рада і самасційнасць Украіны. Гэтая думка рады-трымацца, як бы та ні было, за хвост Гэрмані,—праходзіць чырвонаю ніткаю у іх датырканьнях паміж сабою; гэтая думка—зратаваць раду—зрабілася некім фантомам, які засляпіу вочы, атабрау розум і волю у рады. Яна сама нічога ня бачыць, ня разумея, ня можа нічога сама рабіць: усіо гэта яна лісціва перадала у рукі Гэрмані. Граніцы Украіны абрысоувая ня яна сама, а Гэрманя; пытанем аб замірэньні паміж ею і Расеяй палымая—Гэрманя. Дзеля перамовау аб гэтым замірэньні украінская рада паслала прасіць у Бэрліні панятых: Гэрман'я шле у Смаленск на перамовы барона Мумма-Шварцэнштэйна і аустрыйскаго пасланца Боргарта. 5 апрэля у Цантровуй радзя, у звязку с пачаткам пэрамовау аб замірэньні з Расеяй, паднялося пытаньня аб прыпынку ваенных апэрацiяу на Украіня. За прыпынак стаяла толькі некая крыха дэлегатау, а усе астатнія пастанаві запытаць у Бэрліні, як там скажуць. А аттуль сказалі, што прыпынак рабіць німа чаго, значыцца трэба вясці вайну даляй, да пэупаго замірэньня.

Калі прыпомніць усіо гэта, дык само па сабе устае пытаньня: аб якой жа самасційнасці дзяруць горла Стэцэнкі і Галубовічы? Яны злучыліся з імпэрыялiскаю Гэрман'яй, каб абараняць сваю самасційнасць ад равалюцыйнае Расеі, і разам з гэтым так глыбока зака-

